

ВАРШАВА — ВЕРАСЕНЬ 1939 Г.

Фота — ЦАФ

Сena 60 gr. Цана 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (184) БЕЛАСТОК, 6 ВЕРАСНЯ 1959 ГОДА ГОД IV

## ЮЛІУШ СЛАВАЦКІ

**4 верасня г. г. спаўняецца 150 год з дня нараджэння вялікага польскага паэта Юліуша Славацкага.**

**Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпускае кнігу вершаў і паэм палымянага дэмакрата.**

**Побач мы змяшчаем тры часткі вядомай паэмы Славацкага «У Швейцарыі» у дасканалым перакладзе Максіма Танка, які здзіўляюча трапна аддае чар паэзіі Славацкага.**

**Пераклад мы ўзялі з 7 нумара «Полымя» за г. г., у якім друкуецца паэма поўнасцю.**

## У ШВЕЙЦАРЫІ

I

Яна як мара знікла залатая.
Я сохну з жалю, і чаму, не знаю,
Мая душа не вырвалася з цела
І да анёлаў з ёй не паляцела,
Каб недзе там, за небасхілам сінім,
Быць разам з маёй любай і адзінай.

II

Між гор Швейцарскіх ёсць каскад, з якога
Аар блакітны скача на парогах,
Прыгледзься лепей да вяршынь у хмарах!
Ці бачыш там вясёлку па-над ярам?
З сярэбранай імглы яна звісае,
Пераліваецца і не згасае.
Часамі толькі белыя ягняты
Праскочаць праз вясёлку на даліны
Папасвіцца пад засенню ляшчыны.
Ці голуб праляціць — вястун крылаты —
Вады напіцца, бліснуць апярэннем
У гэтым спектры казачных праменняў.
Тут я яе сустрэў аднойчы рана.
Нібы з вясёлкі яркай, з пены белай
Яна з'явілася неспадзявана.
Здаецца, ў сонцы ўся яна гарэла;
Здаецца, ўся яна абвіта
Святлом анёльскім і нябёс блакітам.
Я на яе глядзеў зачараваны,
Не мог вачэй адвесці закаханых.
А пачуццё любві з такою сілай
Запаланіла і душу і сэрца,
Што праз цясніну да яе, здаецца,
Я паляцеў бы на птушыных крылах.
Баяўся я, каб сонечная мара,
Пакуль душа, збудзіўшыся, аклікне,
Не згінула навек у хвалях ярых,
Ў вясёлцы не растала і не знікла.
І я баяўся, як у сне баяцца,
Прачнуўшыся са сном сваім расстацца.
Вось так упершыню я стрэўся з ёю
Пад яснаю вясёлкавай дугою.
Захоплены красой яе дзявочай,
Стаяў я, долу апусціўшы вочы.

IV

І з той пары шчаслівыя былі мы.
Калі адны азёрамі плылі мы.
Не знаў: ці лодка нас нясе па хвалях,
Ці крылы у мяне павырасталі,
І я, як горны дух, імкнуўся ўдалеч
Яна вяла мяне, куды хацела!
Яна была як лебедзь снежна - белы,
Была азёраў гэтых гаспадыняй,
Плыла — і лодка ўслед плыла няспынна.
За лодкай ззяла паласа блакіту,
За ёю — рыб срабрыстых карагоды
Ігралі ў сонцы па азёрных водах.
Так мы, абкружаныя гэткай світай.
Плылі па ціхай казачнай краіне.
Яна была як водная багіня,
Якой служылі птушкі і дэльфіны,
Ў якой былі палацы ў тонях сініх,
Кароны з зор паўночнаю парою.
І ўсё яна магла зрабіць са мною.

# СЯЛЯНЕ ЗА НОВАЙ
## сельскагаспадарчай палітыкай

Яшчэ зусім нядаўна праходзіў III З'езд, калі партыяй накрэслівалася новае ў сельскай гаспадарцы. Так, гэта было нядаўна. Аднак за гэты параўнальна кароткі перыяд многае змянілася ў нашых вёсках. І калі гэтая змена назіраецца ў масавым маштабе, дык гэта найлепшы знак, што сяляне думаюць, што справа бліжэйшай будучыні ім не абыякавая справа.

На маю думку, не трэба тут спецыяльнага назіральніка, каб убачыць новае ў нашых вёсках. Кожны, хто за апошні час пабываў на вёсцы, несумненна ўбачыў зусім новую для нашай вёскі з'яву. Сяляне пачалі гаварыць аб новай палітыцы партыі. Гэтая справа іх моцна абыходзіць, яны жывуць ёю.

Прыпамінаецца мне гутарка з сябрам з Познанскага ваяводства. Ен быў некалькі месяцаў у камандзіроўцы на Беласточчыне.

— Вашых сялян нішто не кране з месца, — гаварыў ён.

Пастановы III-га З'езду партыі моцна кранулі сялян. Сельскагаспадарчыя гурткі і фонд развіцця сельскай гаспадаркі — гэта справы блізкія нашым земляробам, гэта справы, у якіх яны выразна бачаць сваю будучыню, свае неабмежаваныя перспектывы развіцця. Такое сцвярджэнне я магу падмацаваць канкрэтнымі фактамі: 1113 сельскагаспадарчых гурткоў на Беласточчыне гавораць самі за сябе. Гэта найлепшы залог, што новая сельскагаспадарчая палітыка блізкая сялянам, што яны яе поўнасцю разумеюць.

Я вельмі шкадую, што мой сябра з Познанскага не быў прысутны на першым пленуме Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый, які адбыўся 29 жніўня ў Беластоку. Выступленні земляробаў на гэтым пленуме найлепш яго пераканалі б аб тым, што сельскагаспадарчая палітыка партыі вельмі блізкая нават адсталым (у параўнанні з пазнанякамі) сялянам Беласточчыны.

Зрэшты справа тут не ў пераконванні майго сябра. Нашым сялянам мабыць абыякава, як ён аб іх думае. Важна тое, што да сельскагаспадарчых гурткоў на Беласточчыне ўжо прыступіла каля 23 тысяч сялян, што, за параўнальна кароткі перыяд, арганізавана тут 250 машыновых суполак (кошт машын у суполках — каля 7 мільёнаў злотых), што арганізавана ўжо 65 суполак вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, якія дагэтуль выпрадукавалі 2 мільёны 800 тысяч будаўнічых адзінак. Аб добрай дзейнасці гурткоў і суполак шмат гаварылася на пленуме. Мне найбольш запомніліся выказванні гуртkoўца з Бельшчыны.

— Працоўнае сялянства вякамі выкарыстоўвалі і ашуквалі, як толькі маглі, — гаварыў грамадзянін Калішчук з Алексіна. — Таму нават і цяпер, калі ўладу маюць у руках працоўныя, селянін да ўсяго новага, чаго ён яшчэ не ведае, падыходзіць з падазронасцю і рэзервай. Але, калі ён пераканаецца, што гэтае новае яму на карысць, дык ніхто яго не спыніць каб прыняць яго. А нашыя сяляне бачаць канкрэтную карысць у дзейнасці гурткоў.

Доказам таго, што гаварыў далей грамадзянін Калішчук, няхай будзе факт, што зараз на Бельшчыне амаль у 45 прац. вёсак існуюць сельскагаспадарчыя гурткі. Бельскі павет зрэшты з'яўляецца перадавым у іх арганізацыі.

Сельскагаспадарчыя гурткі, гэта справа ў нас не новая. Можа толькі ў апошні час яна сталася больш масавай. Некаторыя гурткі існуюць ужо па 3 — 4 гады.

Што сялян пераконвае ўступаць у гурткі? Я б сказаў, што больш за ўсё цягне механізацыя (фізічную працу могуць замяніць машыны), а гэтым самым лепшыя вынікі ў вытворчасці.

У нас на Беласточчыне няма такога сельскагаспадарчага гуртка, у якім сяляне не мелі б лепшых вытворчых вынікаў ад тых, якія не з'яўляюцца членамі гуртка. І што цікавае, вынікі гэтыя лепшыя нават у такім выпадку, калі гурток загаспадаруе аблог, за які ніхто не хацеў брацца. Вось напрыклад сельскагаспадарчы гурток у Курашаве, Гайнаўскага павета.

**(Працяг на стар. 2)**

## ДА НАСТАЎНІКАЎ

**У СУВЯЗІ З НОВЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДАМ ПРЫПАМІНАЕМ, ШТО АПРАЧА ПАДРУЧНІКАЎ НЕАБХОДНЫМ ДАПАМОЖНІКАМ У ШКОЛЕ З'ЯЎЛЯЕЦЦА «НІВА». ТАМУ КОЖНЫ НАСТАЎНІК ПАВІНЕН КЛАПАЦІЦЦА, КАБ У ЯГО ШКОЛЕ, ЦІ КЛАСЕ, БЫЛО ЯК НАЙБОЛЬШ ПАДПІСЧЫКАЎ «НІВЫ». «НІВА» ПАВІННА БЫЦЬ АБАВЯЗКОВЫМ ДАПАМОЖНІКАМ У ПРАЦЫ ВУЧНЯЎ. НЕАДКЛАДНА ТРЭБА ПРАВЕСЦІ З ВУЧНЯМІ ГУТАРКІ НА ТЭМУ МАСАВАЙ ПАДПІСКІ «НІВЫ».**

**ПАЖАДАНА ПРАВЕСЦІ ГЭТУЮ АКЦЫЮ Ў ГЭТЫХ ДНЯХ, КАБ НЕ ЗАСТАЦЦА БЕЗ «НІВЫ» Ў КАСТРЫЧНІКУ**



Верасень 1939 г.

# СЯЛЯНЕ ЗА НОВАЙ
## СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ПАЛІТЫКАЙ

(Працяг са стар. 1)

Ён загаспадараваў 27 гектараў аблогу. Сёлета курашаўскія гурткоўцы ў сярэднім атрымалі з аднаго гектара былых неўгоддзяў 17,5 цэнтнераў аўса, 15,5 цэнтнераў жыта і 15 цэнтнераў пшаніцы. Усе людзі з Курашава дзівавaліся, якім чынам на зямлі, дзе ў мінулым не хацела расці нават грэчка, цяпер вырошчваецца добры ўраджай пшаніцы. Прычына тут у добрай апрацоўцы зямлі, і ў сельскагаспадарчых ведах. Тут усе члены гуртка ў зімовым перыядзе праходзілі сельскагаспадарчую адукацыю, закладалі сіласы, гнаявыя ямы. Здабытыя веды, вясной застасавалі ў практыцы.

У выніку да гуртка прыступіла 7 новых гаспадароў і гурток стаўся перадавой сельскагаспадарчай сілай у аколіцы.

Апошнім часам на вёсках шмат гаворыцца аб фондзе развіцця сельскай гаспадаркі. Гэтую пастанову сяляне ўспрынялі як сапраўды вялікую дбайнасць партыі за развіццё сельскай гаспадаркі. 25 мільярдаў злотых, якія атрымае сельская гаспадарка, на працягу бліжэйшых 7-мі год, з дзяржаўнага бюджэту, гэта вялікі жыццядайны ўкол сельскай гаспадарцы. Пры добрым выкарыстанні гэтай сумы можна гаварыць аб хуткім росце сельгасвытворчасці.

У гэтым жа перыядзе для Беласточчыны прызначана з дзяржаўнага бюджэту 1 мільярд 288 мільёнаў 93 тысяч злотых. Пакуль што лік гэты мо' яшчэ нічога не гаворыць. Але трэба разумець, што за ім стаіць дзесяткі новых трактараў, малацільных агрэгатаў, сеялак, капарак і іншых сельскагаспадарчых машын, якія пачнуць працаваць на палях адсталай Беласточчыны, палягчаючы цяжкую працу земляробаў.

Над тым, як найлепш выкарыстаць усе гэтыя сродкі, раілі ўдзельнікі пленума Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый. Справа механізацыі, добрага выкарыстання ФРР і шпарчэйшага развіцця сельгасвытворчасці будзе шырока абмяркоўвацца на Агульнапольскім з'ездзе саюза сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый, які адбудзецца 3 і 4 верасня ў Варшаве. На З'ездзе будуць прысутнічаць перадавыя гурткоўцы Беласточчыны. (вб)

# Весткі з БССР

### ДНІ РУМЫНСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ

25 жніўня ў Беларусі пачаліся Дні румынскай культуры. Адкрыццё Дзён адбылося ў Беларускім дзяржаўным Вялікім тэатры оперы і балету.

На Дні ў БССР прыбылі з Румыніі дэлегацыя дзеячоў культуры і мастацтва, народны ансамбль Румынскай Народнай Рэспублікі і маладзёжны ансамбль, які нядаўна з вялікім поспехам выступаў у Вене, на сусветным фестывалі моладзі.

У Мінску адкрыта выстаўка выяўленчага мастацтва Румыніі, фестывалі румынскіх фільмаў адбываюцца ў сталіцы рэспублікі і ў абласных цэнтрах.

Вечары, лекцыі, даклады, прысвечаныя дасягненням Румыніі, адбываюцца на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах.

Радыё і тэлебачанне арганізуюць перадачы румынскай музыкі.

Румынскія госці прабудуць у Беларусі адзінаццаць дзён. Яны наведваюць прамысловыя прадпрыемствы і вёскі, знаёмяцца з культурай рэспублікі, сустракаюцца з пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, наведваюць выдатныя мясціны рэспублікі.

### ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ШЫРОКАЭКРАННЫ ФІЛЬМ

Калектыў кінастудыі «Беларусьфільм» распачаў здымкі першага каляровага шырокаэкраннага кінафільма «Па роднаму краю».

Як паведамляе «Літаратура і мастацтва», аўтары кінакарціны вырашылі зазняць на плёнку прыроду Беларусі. Будуць таксама зазняты новабудоўлі сямігодкі, перадавыя калгасы і прамысловыя прадпрыемствы.

### РАСКОПКІ Ў СТАРАЖЫТНЫМ ПОЛАЦКУ

Полацк — адзін са старажытнейшых беларускіх гарадоў. У 1962 г. яму споўніцца 1100 год. Шмат выдатных гістарычных помнікаў старажытнай матэрыяльнай культуры ўпрыгожваюць яго.

Самая старажытняя частка горада — Замкавая гара, на якой стаяў Верхні замак - крэпасць. На Верхнім замку археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР у сучасны момант вядзе раскопкі. На месцы раскопак выяўлены жылыя, гаспадарчыя і вытворчыя пабудовы. Экспедыцыя выявіла шмат разнастайных прадметаў матэрыяльнай культуры, якія адносяцца да XIII і пазнейшых стагоддзяў. Знойдзеныя рэчы сведчаць аб высокім узроўні развіцця рамяства ў старажытным Полацку.

# „УСХОДНЯЯ ПАЛІТЫКА"

На днях мы атрымалі 5/59 нумар заходненямецкага месячніка „Der Europaeische Osten" (Еўрапейскі ўсход) і ў ім вялікі артыкул дэпутата ЦДУ у Бундэстаг — фон Гутэнберга. Артыкул мае цікавы загаловак «Заграпічная палітыка — то палітыка ўсходняя».

Фон Гутэнберг быў членам першай дэлегацыі бонскіх парламентарыстаў на сесію Міжпарламентарнай Уніі ў Варшаве і таму дарэчы будзе пазнаёміцца з яго тэзісамі.

«Нямецкая ўсходняя палітыка — пачынае фон Гутэнберг — гэта цяпер першая і найбольш істотная тэма нямецкай замежнай палітыкі». І далей — «нямецкая ўсходняя палітыка будзе мець поспехі толькі на аснове высяненых і даверлівых адносін з нашымі заходнімі саюзнікамі».

Справа зразумелая для кожнага чытача ў Польшчы. Саюз з заходнімі партнёрамі бонскім рэваншыстам патрэбны, бо самі яны ўжо не так моцныя, як 20 год назад III Імперыя.

Фон Гутэнберг раздумлівае, можна ці не можна свае адносіны з дзяржавамі ўсходняй Еўропы паставіць на мірных асновах. Пры дапамозе выдуманых прыкладаў даходзіць да вываду, што мірнае суіснаванне ў даным выпадку немажлівае. Спытаеце, чаму? Паводле фон Гутэнберга «правадыры ўсіх камуністычных партый і шэфы ўрадаў усіх камуністычных дзяржаў свету выказаліся за прызнаннем мэт сусветнай рэвалюцыі». Фон Гутэнберг лічыць злом не толькі тое, што мы гаворым аб перамозе сацыялізма, але і тое, што будуем яго ў сябе. Далей выразна гаворыць аб неабходнасці вызвалення народаў Усходняй Еўропы. Па яго толькі тады была б мажлівасць мірнага суіснавання паміж Бон і Польшчай, Чэхаславакіяй ці Венгрыяй.

Фон Гутэнберг — гэта аднак рэаліст. «Зразумела — піша ён — што заходненямецкая мэта здабыць свабоду для краін на ўсход ад нашай немажлівая».

Аднак і гэты погляд нас здзіўляе. Падумайце, хто хацеў бы даць нам большую свабоду, чым мы маем? Заходненямецкія рэвізіяністы?!

Для кожнага з нас людзі падобныя да фон Гутэнберга заўсёды застануцца такімі, якіх мы бачылі 15—18 год таму назад у гітлераўскіх мундзірах СС і Гестапа.

Імкненне, каб вызваліць Польшчу і іншыя краіны Усходняй Еўропы выводзіцца з таго, што пан фон Гутэнберг лічыць нас нявольнікамі. Піша: «тут проста сілы стаяць насупраць сябе. Адна старана дамагаецца свабоды, другая як можа бароніцца, каб не даць гэтую свабоду».

Першай стараной у разуменні заходненямецкага палітыка застаемся мы. І да нас ён кіруе такое спачуванне: «існуюць астатнія людскія граніцы, якія не маюць нічога супольнага ані з палітыкай, ані з тзв. ідэалогіямі, але толькі з істотай чалавека. Пераход гэтых граніц абазначае капітуляцыю самому, без розніцы пад якім націскам, для якой мэты і чаму».

Сляза набягае на вока, калі чытаеш такія гуманістычныя вывады і трэба добра ўшчыпнуцца, каб прыпомніць, што словы гэтыя фальшыва гучаць з вуснаў кагось, хто 15 год пасля вайны не асуджае правадыроў гітлераўскай нямецкай імперыі.

Успамінаю пра гэта таму, што пан Гутэнберг галоўнай перашкодай у навязанні бліжэйшых адносін паміж Польшчай і Заходняй Германіяй лічыць далучэнне земляў на ўсход ад Одры і Нысы да Польшчы. «Неабходнасць канчатковага прымірэння паміж немцамі з аднаго, а палякамі і чэхамі з другога боку, — піша ён — будзе так доўга нерэальнай, пакуль гэтая перашкода (граніцы) стаіць паміж народамі. Бяспраўнасць выгнанне, забранне Айчыны не можа знікнуць са свету шляхам дзяржаўнага санкцыяніравання. Можа яго вылечыць толькі ізноў права, а не час».

Значыць перасяленне нямецкіх грамадзян на захад было бяспраўем. Але вывожванне, мардаванне і акраданне мільёнаў палякаў было вельмі малым актам у параўнанні да справядлівых санкцыяніраваных правам перасовак граніц. У кожным выпадку Гутэнберг аб гэтым не ўспамінае.

Наступны сказ гучыць ужо як надзея для ўсіх, што развіваюцца ў Заходняй Германіі, рэваншысцкіх арганізацый. «Сапраўды сяброўскія, суседскія адносіны паміж тымі народамі мажлівыя толькі тады, калі час дазволіць ачысціць гэтую праблему». Фон Гутэнберг мае тут на думцы здаецца забранне польскіх Заходніх Земляў, а звычайныя рэваншысты лічаць, што «час» трэба выкарыстаць на прапагандовую і ваенную падрыхтоўку. Гэтак зрэшты дыктуе логіка. калі глядзіш на ўсё, што дзеецца ў Заходняй Германіі.

«Тое, што цяпер выдаецца мажлівым — піша на заканчэнне фон Гутэнберг — гэта навязанне культурных кантактаў і адносін паміж людзьмі».

Фон Гутэнберг не прыехаў у Польшчу. Калі б аднак прыехаў, сумняваюся, ці не ўдалося б яму навязаць кантакты з кім-небудзь, калі б трымаўся поглядаў, як у сваім артыкуле. Нягледзячы на тое, што мяркуе гэты заходненямецкі палітык, апінія ўсіх грамадзян Польшчы згаджаецца з замежнай палітыкай польскага ўрада: «Усходняя палітыка» фон Гутэнберга застанецца невыканальнай марай.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

 

# ВАЕННЫ КАМЕНДАНТ



Капітан І. К. Шандураў.

Невялікая мясцовасць Гібы ляжыць далёка на самым краі паўночна-ўсходняй часткі Польшчы. На галоўным шляху Гродна—Усходняя Прусія. Лясістая, а мясцамі азёрная і дрыгвістая аколіца доўга была тэатрам крывавай вайны. Нават у Беластоку працякала ўжо нармальнае, спакойнае жыццё, у Любліне — новай сталіцы Польшчы ўтварылася ўжо ўлада, толькі тут — на паўночнай Сувальшчыне ўсё яшчэ працягваліся крывавыя змаганні з ворагамі.

1 жніўня 1944 года войскі маёра Гардасевіча падмацаваныя артылерыяй капітана Шандурава вызвалілі Гібы. Праз чатыры дні пазней і тут утварылася народная ўлада. І хоць яшчэ непадалёку на поўначы грымеў фронт, у Гібах пацякло ўсё нармальным жыццём.

Было гэта пятнаццаць год таму назад, аднак людзі добра памятаюць ваеннага каменданта Шандурава: як памагаў пагарэльцам, як арганізаваў харчовыя пункты, як кожнаму нешта параіў і памог. Ён ніколі нічога не забываў. Аднойчы ён выклікаў да сябе Антона Жагарскага — даўнейшага загадчыка школы.

— Чаго вам ад мяне патрэба? — пытаўся збянтэжаны Антон Жагарскі.

— Я ўжо не мог дачакацца, калі вы будзеце мяне патрабаваць, — адказаў усміхаючыся капітан Шандураў. — таму і вас запатрабаваў. Капэўна вы, — як загадчык школы, думаеце аб тым, што праз 5 год вайны, як не было школы, нарасло шмат моладзі. Мне здаецца, што змагу вам нешта дапамагчы...

Сёння Жагарскі з хваляваннем успамінае той час: — Людзі не мелі чаго есці, дзе жыць, у што адзецца. Амаль уся вёска згарэла, а ён тут думае пра школу. Гэта нават настаўніку не было зразумелым...

Але ваенны камендант зараз паехаў у Гродна. Не вядома якім чынам раздабыў дошак і дрэва і дапамог бацькоўскаму камітэту адрамантаваць школу. А калі ўжо ўсё было гатовым, прывёз каля 400 сшыткаў, алавікоў, пёр і іншых школьных прыладаў. Людзі плакалі з радасці, калі 1 верасня 1944 года пачаліся ў школе першыя заняткі. У Варшаве яшчэ былі гітлераўцы, а тут навокал, у Стшэльцавізне. Фронцках, Зельве, і іншых вёсках,







На ўроку рускай мовы.

першы раз ад пяці год, вучацца дзеці роднай мове.

Але не доўга пабываў у Гібах Іван Канстанцінавіч Шандураў. Ён жа салдат, франтавік, яго дарога вяла далей на Варшаву, Бярлін — «дабіць фашысцкую бестыю ў яе ўласным гняздзе».

Развіталіся як добрыя сябры і на кусочку паперы, Шандураў напісаў свой хатні адрас: Гор. Саратаў праспект Кірава дом. 28 кв. 10 Шандураў Іван Канстанцінавіч. Затым ізноў узяў камандаванне над сваёй батарэяй, ізноў загрымелі яго гарматы.

Аднойчы франтавікі прывезлі сумную вестку. У цяжкім гарачым баі пад Сувалкамі загінуў добры капітан, ваенны камендант Шандураў.

Да пятнаццацігоддзя гэтай падзеі ў Гібах была адкрыта новая, прасторная, мураваная школа, якая атрымала імя Шандурава. На памяць аб загінуўшым капітане, умуравана тут мемарыяльная дошка.

Гэты момант глыбока перажывалі жыхары вёскі Гібы і ўсёй аколіцы. Дзень адкрыцця школы з умураванай мемарыяльнай дошкай І. К. Шандураву, быў днём, у якім насельніцтва праявіла сваю вялікую ўдзячнасць і дружалюбнасць да савецкага народа.

Я. Р.



Новапабудаваная школа ў Гібах.

*

Ці засталася ў жывых сям'я Шандуравых? Ці жыве яшчэ дзенебудзь маёр Гардасевіч?

Хто ведае, няхай напіша па адрасу: Беласток рэд. «Ніва».

Я. Р.

Б. Нікіцюк

# У ІМЯ АЙЧЫНЫ

Атрад імя Кутузава, які дзейнічаў у раёне Семяноўкі, вясной, летам і восенню 1943 года правёў рад баявых дзеянняў. Атрадам кіравалі: Васіль Пятровіч Кірычэнка і Кульбіцкі. У жнівеньскі дзень 1943 года, камандзір атрада атрымаў звестку аб дэзерцірстве аднаго з партызан. Заіснавала падазронасць, што ён, праўдападобна, направіўся ў гестапа. Гэта быў малады, слабога характару партызан, а магчыма, што і завербаваны. Доўга думаць не прыходзілася. Неабходна было энергічна супроцьдзейнічаць.

Васіль Пятровіч дае неадкладна загад, аб перамене месца стаянкі атрада. Эвакуацыю атрад правёў спраўна і ў хуткім часе. На месцы застаўся толькі партызан Мікалай Боўтрык, з мэтай закладкі мін у зямлянцы. У гэты час, атрад быў ужо ў дарозе і накіроўваўся ў напрамку Свіслацкай пушчы. Боўтрык, не спяшаючыся, але спраўна, закончыў закладку мін. Раптам пачуў за сабою якісці шорах. Ён схаваўся за дрэва і чакаў узіраючыся. Прашло некалькі мінут і перад ім паказалася фігура гітлераўца. Што рабіць... мільганула ў галаве — але зараз жа вырашыў. Пусціў серыю з аўтамата. Гітлеравец пахіснуўся і ўпаў на зямлю. Прашлі секунды і з-за кустоў пасыпаліся стрэлы. У тым часе Боўтрык аддаліўся на некалькі дзесяткаў метраў ад месца зямлянкі. Гітлераўцы кідаюцца ў пагоню, але без поспеху. У гэты час партызаны былі ўжо за некалькі кіламетраў ад іх і ўступілі на дрыгвяныя абшары.

Да новай сутычкі між атрадам Кутузава і гітлераўцамі дайшло на вузкакалейцы, там, дзе збіраліся яе перасячы. Партызаны перавышалі ворага сваёй чуткасцю. Адступілі назад, а напрамкам іх марша стала рака Нараў. Хутка выяснілася, што рака таксама занятая гітлераўцамі. Аднак партызанская разведка сцвердзіла, што сілы ворага не з'яўляюцца вялікімі і ёсць магчымасць перайсці раку.

Пасля кароткай барацьбы немцы кінуліся наўцёк, а кутузаўцы спакойна перайшлі раку.

У атрадзе Кутузава змагаліся ўраджэнцы Гайнаўшчыны м. інш. Канстанцін Засім, Ян Панькоўскі, Адамовіч, Іван Засім, Павел Ігнацюк і другія. Канстанцін Засім быў намеснікам камандзіра партызанскай разведкі.

Атрад меў на сваім ліку некалькі дзесяткаў збройных сутычак, шмат пушчаных пад адхон цягнікоў, спаленую маёмасць гітлераўцаў у Гарымове, шмат узарваных мастоў і т. п. У верасні 1943 года 18-ціасабовая дыверсійная група ўзарвала ў аколіцы Беразіна за Семяноўкай гітлераўскі транспарт, які вёз самаходы і пушкі. Партызаны пускалі пад адхон і вузкакалейныя цягнікі, якімі ездзіла гітлераўская чыгуначная ахова.

Пачаткова фашысты карысталіся драўлянымі вагонамі, аднак пасля некалькіразовых сутычак, амаль усе вагоны былі прастрэленыя як сіта, а гітлераўцы пачалі карыстацца панцэрнымі.

Былі выпадкі, калі некалькікіламетровы адрэзак чыгункі быў абліты гітлераўскай крывёй. Адна з большых сутычак адбылася каля Масева. Не гледзячы на гэта, што гітлераўцы мелі панцэрны цягнік, атрымалі што называецца. Партызаны зманілі гітлераўцаў выйсці з вагонаў і крыжовым агнём скасілі іх як сена. Падчас гэтай сутычкі загінула звыш 50-ці немцаў. З боку атрада Кутузава, таксама не абышлося без страт — двух партызан загінула а 7 было параненых. Атрад Кутузава развіваў свае баявыя дзеянні па дарогах і шасэ.

У 1943 годзе партызаны спалілі 3 масты. Іх рукамі была таксама падпалена гітлераўская леснічоўка каля Грушак.

Партызанская 10-ціасабовая група, у час пераправы члена савецкага дэсанта з Белавежскай да Ружанскай пушч, разбіла групу гітлераўцаў, якая затрымалася на лясной палянцы.

Партызаны без большых цяжкасцей занялі іх штаб і захапілі вялікую колькасць боепрыпасаў, зброі, харчавання — а самі пераадзетыя ў нямецкія мундзіры адкрытымі дарогамі дасягнулі вызначанага месца.

Багатую і рознастароннюю гісторыю барацьбы з гітлераўскім акупантам мае атрад імя Кутузава.

У яго радах побач з палякамі змагаліся і беларусы, рускія, армяне. Сярод іншых, у атрадзе ад 1943 г. была польская дзяўчына Бронька сумесна са сваёй сяброўкай. Яны выскачылі з цягніка, які вёз некалькі сот жанчын на паднявольную работу ў Германію. Атрад імя Кутузава разросся з 20-ціасабовай групы ў 1942 г. да звыш 100 партызан пад канец 1943 г..

*

Гераічнай барацьбой праславіўся таксама партызанскі атрад імя Суворава. Сваёй баявой дзейнасцю ахапляў ён усходнюю частку Белавежскай пушчы. Атрад узначальваў капітан Бабкоў двухкратны герой Савецкага Саюза.

У яго радах змагаліся, між інш. жыхары Гайнаўскага павета Васіль Леньчык, Міхал Маркевіч з вёскі Елёнка.

Дачку Васіля Леньчыка Ольгу схапілі гітлераўцы і ў вёсцы Верховічы (цяпер распалажа-

(Працяг на стар. 4)



 

Аляксей Карпюк

# У МАЛАДЫЯ ГАДЫ

Убачыўшы мяне, паненкі змоўклі. Каб не западозрылі, што за імі нехта сочыць, я быў вымушаны прайсці міма і пакінуць іх у спакоі. Ды на гэты вечар з мяне хапіла. Я даведаўся як зваць маю суседку — раз. Па-другое, Крысю часта бачыў са стараватым студэнтам, а зараз я пачуў, што для яе гэты студэнт, няйначай Браніслаў, нялюбы, і ў мяне быццам зняў хто з грудзей цяжкі камень. І па-трэцяе... Было надта ж дзіўна, што можна хадзіць па магазінах проста так толькі, каб глядзець на цукеркі.

— От, крывасмокі! — дзівіўся я ўголас.

Але штосьці прымушала мяне не прыдаваць значэння гэтай шаблоннай фразе. Новы свет, які прыадкрываўся перада мною, прымусіў мяне змоўкнуць і ўпарта, са здзіўленнем думаць. Усё гэта для мяне было такім незвычайным, што пад уражаннем навізны я да глыбокай ночы прахадзіў па горадзе.

6

На наступны дзень была нядзеля. З самага рання я ўзяўся за работу. Дома жыла ўдава прачка. Вадаправод на нашай вуліцы меў толькі генерал. Прачка трымала мяне на кватэры з-за вады. Насілі яе здалёк. Я наліў вялізную бочку і балею. Наварыў есці. Пад'еўшы, узяў свежы нумар часопіса, які ўчора прынёс з ліцэя, пайшоў пад касцёл святой Ганны, стаў вартаваць. Я ведаў, што сюды ў нядзелю прыходзіць маліцца сям'я генерала.

— 10 —

Некалькі хвілін пахаджваў па тратуары перад касцёлам, гартаючы часопіс, калі здалёк убачыў добра вядомага студэнта з вусікамі ў нітачку. «Чорт цябе бяры, ідзі, ты мне не страшны!» — сказаў я сабе, успомніўшы, як неахвотна адзывалася аб ім Крыся. Каб мяне не западозрылі, што наўмысна чакаю, я часопіс закрыў і пачаў разглядаць стралістыя гатычныя лініі зграбнага касцёла з чырвонай цэглы. Краем вока ўбачыў, што разам са студэнтам ішоў Генрых Станеўскі, у новым касцюме і фетравым капялюшы. Гэта быў апалячаны беларус. Каб хто не сумняваўся ў ягонай нацыянальнасці, ён на курсах да фальшу падтрымліваў шавіністычную размову, выказваў антысавецкія думкі.

Станеўскі і элеганцкі студэнт з чорным банцікам пад барадой ішлі паволі і гутарылі. Даляцеў абрывак фразы майго аднакурсніка:

— Не-е, калі не прысячы жыдакамуну — апануе ўсёй Еўропай!.. — Станеўскі выражаўся без перакanання, як кажуць людзі, не сваімі думкамі.

Адказ Браніслава я забыўся. Памятаю тон яго слоў. Гаварыў вяла, лянiва, неахвотна і сумна, быццам вымаўленне гэтых некалькіх простых слоў прычынялі яму няведама які боль. Мне стала ясна, што палітыка для яго не ўнутраная неабходнасць, а дань моды, чым займаецца ат так сабе...

— Сэрвус, пане Барташэвіч! — крыкнуў да мяне Генрых.

Цырымонія знаёмства была для мяне незвычайнай, і ад адной думкі, што яна зараз адбудзецца, я разгубіўся зусім. Генрых падаў руку, пачаў рэкамендаваць студэнту.

— Браніслаў, — неахвотна марматаў той, вітаючыся, і вялікадушна адвярнуў галаву, каб не бачыць майго хвалявання. Наогул, ён рабіў уражан-

— 11 —

не, нібы яму надакучыла жыць на свеце, і ён робіць вялікую ласку, што сярод нас існуе.

Даволі грубавата Генрых узяў у мяне свежы нумар «Мора і Калоніі», папрасіў:

— Дазвольце!

Я дазволіў. Польскія ўрадавыя колы выхад з эканамічнага крызісу бачылі ў калоніях, іх і дамагаліся на міжнародных канферэнцыях. Урад быў упэўнены, што свайго даб'ецца, таму выпускаў спецыяльны месячнік «Мора і Калоніі». Сынкі чыноўнікаў і памешчыкаў збіраліся ехаць на Мадагаскар шукаць прыгод, калі толькі гэтую выспу аддадуць Польшчы. «Залатая моладзь» ужо распявала песні пра спякотную і некультурную Афрыку і бачыла сябе героямі сярод неграў і экзотыкі.

Іх зацікавілі фатаграфіі, дзе Мусаліні праводзіў італьянскія сем'і на жыхарства ў Абісінію. Доўга смакавалі «талент» дучэ, захапляліся ім, зайздросцілі «макароннікам», як яны называлі італьянцаў, забыўшыся пра мяне. Я адчуў да іх лютую, непрымірымую варожасць.

Раптам Браніслаў папрасіў у нас прабачэння і пайшоў. У мяне задрыжэлі калені. Набліжалася генеральская сям'я: генеральша, дачка і нейкая жанчына. Паненка крочыла з маці сціпла, нібы школьніца, трымала чорны малітвеннік у залатой аправе і крадком зыркала навокал. Яна сябе паводзіла так, як паводзяць дзеці пры нябожчыку — з забаўнай, вонкава пакорнай ціхмянасцю. Мне ўжо тады кінулася ў вочы нязладжанасць маці і дачкі. Фанабэрыстая, аскетычная, даўганосая і хударлявая шляхцянка з ідавочнымі рысамі каўказскай ці іншай усходняй крыві ў сваім родзе вельмі ж была непадобнай на жывое, прывабнае дзіця, у якога што было на душы, тое і на твары.

— 12 —

Варожасць, якую я хвіліну таму назад перанёс з Генрыха і Браніслава на яе, у мяне знікла.

Генеральша скупа ўсміхнулася студэнту; падкрэслена ветліва, быццам дарыла, падала руку. Браніслаў, зняўшы студэнцкую кепку, нізка пакланіўся і пацалаваў даму ў пальчатку.

— Гэта — князь Любецкі, — з пашанай сказаў Генрых. — Вечны студэнт. У Швецыі скончыў інстытут. У Вільні абараняе дыплом. Нарачоны генеральскай дачкі.

— Та-ак? — прамовіў я, абы што-небудзь сказаць.

Генеральша, нікога больш не заўважаючы, паплыла ў касцёл. За ёю падаліся паненка з жанчынай і са студэнтам. Ля дзвярэй сядзелі жабрачкі. Калі генеральша холадна, не нагінаючыся, растыкала ім грошы, Крыся ўся скурчылася. Ёй было няёмка за маці і за бабулек.

— Ух-х! — я цяжка ўздыхнуў, калі, нарэшце, за імі зачыніліся масіўныя дзверы з літага чыгуну.

Яшчэ нядаўна я прыдумваў сабе гісторыі, быццам станаўлюся славутым чалавекам, напрыклад, барцом, або баксёрам, выходжу на міжнародную арэну, і генеральша сама, нібы з Мартынам Ідэнам, шукае са мной сустрэчы, каб аддаць мне сваю Руф. Але, прыглядзеўшыся да гэтай пані, я адчуў, што генеральша — не місіс Морз. Гэта — закаранелая, чыстакроўная арыстакратка, і яна нізавошта мяне не прызнала б за чалавека, стань я нават ультрамільянерам! Мне здалося, што я са сваімі марамі смешны і наіўны!

І ўсё роўна я не здаваўся.

Быццам для таго, каб толькі паўзірацца на касцёл, я пацягнуў Станеўскага ў сярэдзіну: з ім я не так кідаўся ў вочы. Генрых выказваў да мяне незразумелую ўвагу і ветлівасць. У чым была

— 13 —

справа, я даведаўся не хутка. Зараз мне было важна тое, што ён слухаўся. Генрых пачаў шаптаць, як калісьці захапляўся тут Напалеон, і шкадаваў, што не можа ўзяць касцёл на далонь, ды перанесці ў свой Парыж. Але я больш глядзеў, чым слухаў.

У строгай перспектыве памяшчаліся два рады масіўных дубовых лавак. У пярэднім радзе, быццам за высокай школьнай партай, сядзела генеральша з дачкой. Побач стаяў студэнт. У Крысі дзве светлыя касы апусціліся на плечы, пакрытыя фартушком з чорнага шоўку. Я так узіраўся, што нават разгледзеў у яе ніжэй патыліцы непакорныя кудзеркі, у студэнта — лысіну, а ў генеральшыным капелюшы — тры пёркі. Навокал сядзелі кастлявыя бабулі і высушанымі, быццам курыныя лапы, рукамі перабіралі пацёркі ружанца. Магутныя гукі арганаў хапалі за душу і наводзі сум.

— Тэ дэум, ляўдамус, тэ дэум, глёрыаму-ус!.. — нібы з таго свету даносіліся словы ксяндза. Пахла сырасцю. У мяне было ўражанне, быццам я знаходжуся ў магіле. Першы раз я зусім не адчуў нянавісці да Крысі. Гледзячы на тое, як Крыся шчыра малілася, ні разу не азіраючыся і не паварочваючы галавы, я адчуў да яе цёплае сяброўскае спачуванне і нават захапленне нявіннай наіўнасцю.

7

Аднаго разу апускаўся я з лесвіцы і тварам у твар спаткаўся з Крысяй. Здышаная і расчырванелая, яна апошнімі сіламі падымалася на пяты паверх. Дайшоўшы да мяне, каб выклікаць спачуванне, даверліва і проста, быццам мы з ёю даўно знаёмыя, прамовіла:

— Уф-ф, як цяжка!

І пакуль я знайшоўся што-небудзь адказаць, глыбока ўздыхнула, прыснула гуллівым смехам,

— 14 —

пругка скочыла з апошняй ступенькі на паркет і лёгка пабегла па калідоры.

Няверачы ні сваім вушам, ні вачам, я спыніўся. Не, я не сніў. Сапраўды, яна хвіліну таму назад да мяне загаварыла! Яшчэ гучэў яе смех: меладычны, крыху свавольны і дураслівы. І ўсё гэта для мяне. Я стаяў, як зачараваны, зрабіўся найшчаслівейшым чалавекам на свеце. Ва мне паднялася бура. Я ўжо забыў, што яшчэ зусім нядаўна глядзеў на яе, як на ворага, як якога ўсе мае няшчасці. Трэба было ісці, а я нібы шкадаваў наступаць на месцы, дзе толькі што стаялі яе ногі.

Са светлай радасцю, з невытлумачальнай трывогай я адчуў, што станаўлюся нявольнікам гэтай паненкі.

З таго дня ўсе мае помыслы прысвячаліся толькі Крысі. Дзеля яе я пачаў здраджваць свайму сумленню.

Аднойчы я дапамагаў нашаму старому швейцару, пану Войцеху расстаўляць у зале крэслы. Іх нехапала і мы даставалі крэслы з гары. Селі перадыхнуць. Пан Войцех хапіўся, што няма курыва. Ён папрасіў мяне апусціцца на першы паверх і купіць папярос. Я запэцкаў вопратку ў вапну, павуціннe і пыл. Падумаўшы з жахам, што магу спаткацца з Крысяй, я не ведаў, што сказаць. Стары пакрыўдзіўся.

— Дрэнны ты хлапец, упікнуў ён мяне, здагадаўшыся ў чым рэч. — Дрэнны. Мне здаецца, што калі ты станеш багатым, а да цябе прыедзе з вёскі ў лапцях бацька, ды сустрэне на Міцкевіча вуліцы, ты ад яго адмовішся: пабаішся, а што падумаюць пра цябе паненкі...

Мяне ўразіла вострая заўвага старога. Успомніўся Папроцкі. Я падумаў: няўжо і я такі самы стаў? Стала сорамна. Аднак пайсці ў бруднай вопратцы не змог.

(Працяг будзе)

— 15 —

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

### БУДУЧЫНЯ ЯДЗЕРНАЙ ФІЗІКІ

— Будучыня металургіі — у пераўтварэнні элементаў, — сцвярджае намеснік старшыні Акадэміі навук СССР Бардзін.

Праз насвятленне металаў радыёхвалямі адпаведнай даўжыні можна будзе «выламваць» з яго некаторыя малекулы і змяніць хімічны склад. Такім спосабам можна атрымаць без дамешкі каштоўных дадаткаў патрэбны склад сталі. Змяняючы будову атамных ядзер, можна будзе атрымаць з кожнага металу найбольш рэдкія і каштоўныя металы. На аснове ядзернай металургіі сфармуецца новая галіна індустрыі.

### ШТУЧНАЕ СОНЦА

Прафесар Георгі Бабат прадказвае, што ўжо ў 2000 годзе людзі ствараць на вышыні 20—30 км над Масквой штучнае сонца, якое асветліць горад ноччу. Чатыры пучкі праменняў высокай частаты, высланыя з розных станцый, спаткаўшыся ў паветры, распаляць атмасферычныя газы аж да бляску. Пабочным прадуктам такога «сонца» будуць каштоўныя штучныя ўгнаенні, якія ў форме дажджу ападуць на зямлю.

### АПАНАВАННЕ КОСМАСУ

На колькі імкненне чалавецтва да палёту на Месяц і іншыя планеты. так на столькі пазнаўшы ўсю сонечную сістэму будзе марыць аб тым, каб пакінуць яе і зведаць міжзвёздныя прасторы. Сродкам руху, па думцы праф. Кірыла Стапюковіча стане адзін з сатэлітаў Сатурна або Юпітэра. Пры застасаванні фатонавай ракеты вучоныя збудуюць гіганцкія маторы, якія нададуць спутніку Юпітэра або Сатурна хуткасць, блізкую да хуткасці праменняў свету.

— На планетах сонечнай сістэмы вырастуць пад грамаднымі шклянымі купаламі, напоўненымі штучнай атмасферай, цэлыя гарады, — піша вядомы вучоны - астранаўтык інжынер Мікалай Варвараў. Першы такі шкляны горад, зразумела, паўстане на Месяцы. Тут пабудуюцца станцыі да далейшых палётаў. Жыхары Месяца змогуць там на месцы выпрадукаваць многа патрэбных да жыцця і падарожжа рэчаў.

### СУПРАЦЬ ЗАБАБОНАЎ

Каб даказаць, што забабоны — гэта выдумка, адзін лётчык у Мексіцы выскачыў 13 раз у жыцці з самалёта з парашутам 13 чысла, у 13 гадзін і 13 мінут. Перад гэтым ён шпацыраваў пад драбінай і прасіў пусціць чорнага ката, каб ён яму перабег дарогу, рассыпаў соль, пабіў люстэрка і скочыў уперад левай нагой. Усё гэта нікольки не перашкодзіла яму шчасліва прызямліцца з парашутам

 

# З НАРОДНАГА

Якім дагаварыўся з кумой спатканца вечарам. Кума сказала жонцы Якіма:

— Замест мяне пайдзі ты, толькі нічога не адзывайся і што б ён не гаварыў увесь час маўчы.

Жонка так і зрабіла. Ноччу яна пайшла на ўмоўленае месца. У цемры муж яе не пазнаў, думаў што гэта сапраўды кума. Вось ён падае ёй 700 зл., каўбасу, мяса і кажа:

— Каб мая жонка была як ты, то я б яе шкадаваў і гэтым мясамды каўбасамі карміў. Аднак яна не, гэтага не зарабіла.

На другі дзень жонка наварыла мяса, каўбасы і купіла сабе гадзіннік. Убачыўшы гэта, муж аж за галаву ўзяўся, і стаў крычаць на жонку:

— Адкуль жа ты гэтага ўсяго набрала?

А жонка яму спакойна адказала:
— Што зарабіла, тое і зварыла!

Прыслаў

**Пятро Мартынюк**
Гайнаўка
вул. Падляша 7/8

*

Марцін узяў пазыку ў дзяржаўным банку. Меркаваў купіць карову. Некалькі разоў хадзіў на торг. але ўсё не трапіла такая карова, якая яму падабалася. Нарэшце ўзяў ды купіў радыё. Прынёс дахаты, уключыў, іграе на ўвесь голас. Прыходзіць да яго сусед і кажа:

— Ну, Марцін, пакажы, якую карову купіў.

— Не купіў, — адказвае Марцін.

— А што ж гэта ў цябе рычэла?

— Не рычэла, а іграла. Гэта ж радыё я купіў. Дзеці мае растуць і да малака іх сёння не цягне, а толькі да культуры.

А. МАКАЛЬ
в. Крушыняны



**— Учора я была на канцэрце. Ігралі Гарасевіч з Вронскім.**

**— Не можа быць! І хто з іх выйграў?**

**Мал. Ул. Барташэвіч**

**Сучасныя вясковыя гульні**

## „Гэтак не было"

Сёння, пры нашай дэмакратыі,
Кожная дзяўчына ў андуляцыі.
Дзяўчына з вёскі за санацыі —
— Не знала гэткай камбінацыі

І харошыя і прыгожыя
Дзеўкі спраўныя, дзеўкі слаўныя
Бюралісткамі, інжынерамі,
На адных правах з кавалерамі.

Толькі, кепскі ў нас звычай водзіцца —
Маладыя пажаніўшыся не годзяцца,
І ў канцы канцоў ім прыходзіцца
Падаваць у суд і разводзіцца

А. МАКАЛЬ
в. Крушыняны.

## НЯДРЭННЫЯ ДУМКІ

**Хабарнік — гэта чалавек, які жыве там, дзе ёсць магчымасць... Дзе няма магчымасці, там няма хабарніка.**

*

**Ёсць людзі, якія маюць культуру толькі фізічную.**

*

**Кожную вясну я на год старэйшы, а мая жонка на два гады... маладзейшая.**

*

**Меламан нават на магільным камені мае запісаную песню.**

*

**Аптыміст заўсёды і ўсюды бачыць зялёны колер, песыміст — чорны; чалавек сапраўды разумны не адрознівае колераў.**




# СЕЛЬГАСГУРТКІ

Не ведаю, чытачы, ці вам вядома, што ў нашым ваяводстве больш тысячы сельгасгурткоў. Сельгасгурткі растуць, як грыбы пасля дажджу. У гэтым годзе 50 гурткоў купляюць поўныя камплекты сельскагаспадарчых машын.

Уявіце сабе, дарагія чытачы, што сельгасдзеячамі з'яўляюцца ў нас людзі ад плуга, якія ходзяць у нячышчаных ботах, а да апрацоўкі зямлі падыходзяць з механічнага пункту погляду. Гэтыя людзі арганізуюць сельгасбібліятэкі і імкнуцца, каб у час вясенне - палявых работ на палях усё па кніжнаму атрымоўвалася.

Я катэгарычна супроць перастаўкі сельскай гаспадаркі на механічную дарогу. У сувязі з механізацыяй вёскі вялікія непаразумленні могуць атрымацца. Напрыклад; трактарыст закахаецца ў дзяўчыне і пачне выкарыстоўваць машыну не па прызначэнню. На трактары да каханай будзе ездзіць, а пры каханні і нафты больш згарае.

Сенакасілку сяляне змогуць прыстасаваць да ўборкі грыбоў. Пасля такога «грыбастрыжэння» гарадскі жыхар чорта пухлага не грыба, у лесе знойдзе.

У нашых сялян вынаходніцкая жылка працуе беззаганна. У малацілку патрапяць умантаваць самагоначны апарат і адразу з новага зерня спірт закапае.

Жняярку змогуць падцягнуць пад рэчку і карыстацца як механічнай сціральнай машынай. Хоць і з другога боку лапасты будуць круціцца, то ўсё ж-такі не бяда. У нас многія справы круцяцца не так як трэба.

Сеялку людзі прыстасуюць да кармлення курэй. Пойдуць куры як салдаты чарадою за агрэгатам і кожная сваё зерне без дракі праглыне.

Калі на бліжэйшым усеагульным з'ездзе дэлегаты сельгасгурткоў дакладна распрацуюць метад выкарыстання сельгасмашын, то магчыма, што канвеерам будуць карыстацца для падачы закусак і напіткаў гасцям.

Нашы прадзеды з сахою і сярпом па полю хадзілі і да старасці дажывалі.

Механізацыя, здаецца мне, разленіць людзей і таму, даражэнькія, запісвайцеся як найхутчэй у сельскагаспадарчыя гурткі, каб без нас чаго дрэннага там не натварылі.

*Дзядзька Левон.*

### ТАДЫ...

— Калі ты, міленькі Савачка, са мной ажэнішся?

— Тады, калі перастану шчыра кахаць Людмілу.

Прыслала:

**Валя Ануфрыюк**
в. Рыбалы
Бельскі пав.

### ПАМЫЛКА

Кіраўнік аднаго бюро з'еў снеданне і пачаў чытаць газеты. Прачытаў ужо немала, аж раптам жонка пытае:

— Што гэта, сёння ты не ідзеш у бюро?

— А няхай яго!.. — вылаяўся муж, — мне здавалася, што я ўжо там.

### ЗАЛЕЖНАСЦЬ

Цягнік павінен быў незадоўга ад'ехаць. Да кандуктара звяртаецца пасажыр і пытае:

— Ці паспею я развітацца са сваёй жонкай?

— Усё залежыць ад таго, як доўга вы пасля шлюбу...

### ЖАНЧЫНЫ...

— Дык вам ужо 102 год — з пашанай прамовіў журналіст. — Вы самы старэйшы чалавек у гэтым горадзе...

— Не, — усміхнуўся старэчына, пасля чаго сказаў на вуха журналісту:

— Мая жонка на два гады за мяне старэйшая, але хто аб гэтым ведае (?). Заўсёды гаворыць, што ёй толькі 90 год.

### РОЗНІЦА

На ўроку настаўнік пытае:

— Растлумач мне, чым адрозніваецца асцярожнасць ад баязлівасці?

Вучань:

— Калі мы баімся, — значыцца з'яўляемся асцярожнымі, а калі баяцца іншыя — дык яны баязлівыя.

### НЕ МАЕ АХВОТЫ

Спаткалася двух знаёмых...

— Як пажываеш? Чаго такі сумны?

— На шлюб трэба мне ісці, але нейк не маю ахвоты.

— А хто жэніцца?

— Я, сам...

### ЗАПРАШЭННЕ

Дачка аднаго гаспадара падпаліла стог сена і хлеў свайго бацькі. Калі яе спыталі, навошта яна гэтак зрабіла, — адказала:

— Я кахаю аднаго з пажарнікаў і надта хацела з ім сустрэцца.

Прыслаў:

**Анатоль Харкевіч**
Новае Ляўкова
Гайнаўскі пав.

### НА ЎРОКУ

Настаўніца пытае вучня:

— Скажы, Валодзя, сталіцай якой дзяржавы з'яўляецца Масква?

Хлопец задзёрыста адказвае:

— А пані сама не ведае?

**Ніна Красько**
Дубічы - Царкоўныя,
Гайнаўскі пав.



**— Не дадуць чалавеку спакойна праявіць плёнку.**

**Мал. Ю. Дынды.**

## НЕПАРАЗУМЕННЕ

**Настаўнік раздаў вучням правераныя сшыткі і кажа:**

**— Хто з вас не разумее сваіх памылак, пытайцеся ў мяне. Ахвотна адкажу.**

**Вырываецца адзін з вучняў:**

**— Я не разумею...**

**— Чаго не разумееш? — пытае настаўнік.**

**— Чаму вы падпісаліся «Асёл», а не паставілі мне ацэнкі.** **(М. К.)**



**Вопытны грыбнік**

«Агенёк»

 